

# Беларус

«Дзяржаўнай мовай Рэспублікі Беларусь зьяўляецца беларуская мова».
— *Канстытуцыя РБ, Артыкул 17.*

№ 429 Лістапад 1995
Год выд. 44

BIELARUS / Belarusan Newspaper in Free World. Published by the Belarusan American Ass'n, Inc.
Address: P.O. Box 310178, Jamaica, N.Y. 11431-0178, U.S.A. Price $3.00

## *КАМУ СЛУЖЫЦЬ БЕЛАРУСКАЯ ДЫПЛЯМАТЫЯ?*

На пахаваньні забітага ізраільскага прэм'ер-міністра Іцхака Рабіна 7 лістапада сёлета сярод шматлікіх лідэраў сьвету былі расейскі прэм'ер Віктар Чарнамырдзін, украінскі прэзыдэнт Леанід Кучма, прэзыдэнт Эстоніі Ленарт Мэры, прэм'ер Летувы Адольфас Сьлезэвічус. Але зь Менску ў Ерусалім не прыляцеў ні прэзыдэнт Лукашэнка, ні прэм'ер Чыгір. Чаму? Ці не таму, што лукашэнкаўскі Менск узяў востры курс на дружбу зь Іранам і Іракам, самымі зацятымі ворагамі Ізраіля, якім Беларусь прадае зброю. Беларускі ваенна-прамысловы комплекс, які выконвае заказы Масквы, падпарадкаваў сабе і беларускую дыпляматыю. Продаж зброі выраблянае з расейскае сыравіны беларускімі заводамі (невядома зь якім разьмеркаваньнем прыбыткаў) нагэтулькі паставіў Беларусь у залежнасьць ад пакупнікоў, што на некаторых міжнародных форумах Менск выглядае непаваротлівым кліентам Тэгерану і Багдаду.

У кастрычніку Лукашэнкаў эмісар Уладзімір Замяталін езьдзіў у Багдад на сустрэчу зь іракскім прэзыдэнтам Садамам Гусэйнам. У гэтым часе ў Іраку адбываўся рэфэрэндум, у якім 99,6 працэнта выбаршчыкаў (у Сталіна было 99,9 працэнта) падтрымалі палітыку Гусэйна і ўхвалілі яго прэзыдэнтам яшчэ на сем гадоў. Паводле Замяталіна рэфэрэндум быў «дэмакратычны». Менскі госьць Багдаду заклікаў спыніць супраць Іраку «немаральныя эканамічныя санкцыі», накладзеныя ААН у 1990 годзе за агрэсію супраць Кувэйту.

Два тыдні пазьней, 8 лістапада, Рада Бясьпекі ААН пастанавіла прадоўжыць санкцыі супраць Іраку, паколькі Багдад не задавольніў выстаўленых яму дамаганьняў. Цікава, што Рада Бясьпекі ААН, куды ўваходзіць і Расея, разглядае пытаньне антыіракскіх санкцыяў кожныя 60 дзён, і ні разу ніводная дзяржава-член Рады не падала фармальна прапановы спыніць санкцыі. Дык ці не перастараўся Менск у сваёй услужлівасьці перад Багдадам?

Назіраючы за тым, як урад прэзыдэнта Лукашэнкі намагаецца культываваць гандаль зь Іранам і Іракам, зараджаецца падазрэньне, што беларуская дыпляматыя выконвае брудную работу Масквы, расплачваючыся за гэта адпаведным адмоўным іміджам сярод дзяржаваў Захаду.

**А. Будзіч**

## СЬВЕЖЫ ПОДЫХ

Беларуская дыяспара на працягу 50 гадоў мела выразнага ворага — таталітарную сыстэму камунафашызму, які брутальна патаптаў правы чалавека. Няма, бадай, тут патрэбы прыводзіць довады крымінальнасьці камуністычнай партыі.

Падзеі 1985-91 гадоў далі надзею на лепшую будучыню. Беларусь абвесьціла дзяржаўны сувэрэнітэт 27 ліпеня 1990 году і незалежнасьць 25 жніўня 1991 году, але кіраваньне дзяржавай засталося ў руках янычараў, верных Маскве і камуністычнай партыі. На пачатку яны прыціхлі, бо баяліся рэпрэсіяў за мінулыя праступствы. Дыяспара адгукнулася вельмі пазытыўна на зьмены рэжыму, але неўзабаве выявіўся камуністычны трык: крок назад, два наперад. Калі ўлады дазволілі правесьці ў Менску Першы ўсебеларускі зьезд у 1993 годзе, многія з нас глынулі прынаду, каб пазьней пабачыць, што Беларусь апынулася на кручку ў Лукашэнкі.

Хіба тут будзе лішнім пералічаць факты на пацьверджаньне таго, які курс узяў прэзыдэнт рэспублікі Лукашэнка. Курс гэты выразна вядзе да звароту камунафашысцкай сыстэмы, ад якой так шмат пацярпеў беларускі народ. Лукашэнка імкнецца да рэстаўрацыі былой савецкай імпэрыі, што можа прывесьці да далейшых трагічных пасьледкаў. Нядаўны факт падпарадкаваньня лепшых вайсковых адзінак міністэрству нутраных спраў, падначальваючы такім чынам армію сабе асабіста, выклікае памяць фашысцкага СС ды часоў сусьветнага крыміналіста Дзяржынскага.

Цяпер усё больш узрастае непакой за будучыню нашай Бацькаўшчыны. Рэакцыя беларускай дыяспары на апошнія падзеі ў Беларусі была вельмі правільнай. Беларусы ЗША і Канады стварылі Кааліцыю Абароны Дэмакратыі і Правоў Чалавека ў Беларусі. Гэта сьвежы подых у жыцьці нашай эміграцыі. Пакінулі збоку спрэчкі і нутраныя непаразуменьні, каб усім супольна выступіць у Нью-Ёрку з пратэстам супраць самаволі Лукашэнкі.

Тут прапаную на гэтым не канчаць, а залажыць сталую кааліцыю, якая стане на абарону беларускай дзяржаўнасьці і правоў чалавека ў Беларусі. Прапаную склікаць канфэрэнцыю прадстаўнікоў усіх грамадзкіх, палітычных і царкоўных арганізацыяў ды паклікаць сталы сакратарыят Лігі (ці Кааліцыі) Абароны Правоў Чалавека ў Беларусі. Заданьнем такога сакратарыяту было-б сачыць за падзеямі на Беларусі і арганізаваць хуткую рэакцыю дыяспары перад палітычнымі органамі краінаў пражываньня беларусаў.

**Б. Рагуля**

## У КАМІСІІ БЯСЬПЕКІ І СУПРАЦОЎНІЦТВА Ў ЭЎРОПЕ (КБСЭ): АЦЭНКІ ВЫБАРАЎ. УЗАЕМАСУВЯЗЬ ПАМІЖ ПРЫВАТЫЗАЦЫЯЙ І ДЭМАКРАТЫЯЙ

На публічным брыфінгу ў Вашынгтоне, праведзеным КБСЭ супольна з Фундацыяй «Дом Свабоды» 22 верасьня 1995 г., на якім разглядаліся пытаньні пераходу ўсходнеэўрапейскіх краін да дэмакратыі і станаўленьня грамадзянскіх арганізацыяў, дырэктар «Дому Свабоды» Адрыян Каратніцкі сказаў, што ў Беларусі і Казахстане выбары «ня былі свабодныя і справядлівыя». «Свабодныя і справядлівыя, хоць і не дасканальныя» выбары, паводле яго, былі ў Грузіі, Малдове, Расеі і Ўкраіне. У Арменіі выбары былі «свабодныя, але несправядлівыя». А ў Азэрбайджане, Таджыкістане, Туркмэністане і Узбэкістане выбарчыя працэсы былі ацэненыя, як «несвабодныя і несправядлівыя».

На брыфінгу была адзначаная моцная ўзаемасувязь паміж дэмакратыяй і эканамічнымі рэформамі, як паказалі сацыялягічныя дасьледаваньні. Кожная з шасьці посткамуністычных дзяржаваў, у якой прыватызацыя перавысіла 50 працэнтаў — Альбанія, Эстонія, Вэнгрыя, Польшча і Славенія — мае свабодныя выбары і дэмакратычна абранае кіраўніцтва. А ў сямёх з васьмі краінаў — усе былыя савецкія рэспублікі — у якіх прыватызацыя не перавысіла 20 працэнтаў валавога нацыянальнага прадукту, няма свабодных і справядлівых выбараў.

*(Паводле CSCE Digest, vol. 18, No. 9, October 1995)*

### *«ТАТАЛІТАРНЫ ЎДАР ПА ПРАФСАЮЗАХ У БЕЛАРУСІ»*

Пад гэткім загалоўкам бюлетэнь "News and Views" (Vol. 2, No. 2, 1995), орган Свабоднага прафсаюзнага інстытуту Амэрыканскай Фэдэрацыі Працы–Кангрэсу Прамысловых Арганізацыяў, піша пра заціск урадам прэзыдэнта Лукашэнкі дзейнасьці свабодных прафсаюзаў на Беларусі, пра арышты і перасьлед забастоўшчыкаў менскага мэтрапалітэну. Калі Лукашэнка ня прыслухаецца да пратэсту з боку Міжнароднай Канфэдэрацыі Свабодных Прафсаюзаў (да якое належаць 126 мільёнаў сяброў са 134 краінаў), чытаем у бюлетэні, Канфэдэрацыі нічога не застанецца як запачаткаваць фармальную працэдуру супраць беларускага прэзыдэнта ў Міжнароднай Арганізацыі Працы ды заклікаць члены-арганізацыі па цэлым сьвеце далучыцца да акцыі міжнароднага пратэсту.

## ВІНШАВАНЬНІ «БЕЛАРУСУ» АД ГУБЭРНАТАРА ІЛІНОЙ

У штаце Ілінoй, як ведама, жыве шмат беларусаў, ёсьць беларускія арганізацыі і дзьве цэрквы. Губэрнатар штату Джым Эдгар заўсёды зь вялікай прыхільнасьцяй ставіцца да патрэбаў беларускае грамады. Сп. Эдгар прыслаў рэдакцыі «Беларуса» прывітаньне з 44-мі ўгодкамі выхаду газэты.

«Гады Вашай самаахвярнай працы на карысьць беларуска-амэрыканскага грамадзтва, — сказана ў прывітаньні, — заслугоўваюць на пахвалу. Вашы чытачы шчасьлівыя мець беларускую газэту ў якасьці выдатнай крыніцы навінаў з нацыянальнага і мясцовага жыцьця. Дзякуючы Вашай далейшай шчырай працы, Вы здолееце яшчэ шмат гадоў служыць беларуска-амэрыканскаму грамадзтву».

Рэдакцыя «Беларуса» шчыра ўдзячная сп. Джыму Эдгару за словы прызнаньня і падтрымкі.

## ЛУКАШЭНКАВА ПАРАЛЕЛЬ ДА ГІТЛЕРА

У інтэрв'ю нямецкай газэце «Гандэльсблят» 21 лістапада прэзыдэнт Лукашэнка сказаў, што «ня ўсё было толькі благое зьвязанае ў Нямеччыне зь ведамым Адольфам Гітлерам... Бо-ж нямецкі парадак фармаваўся вякамі. Пры Гітлеры гэтае фармаваньне дасягнула найвышэйшага пункту. **Гэта тое, што адпавядае нашаму разуменьню прэзыдэнцкай улады і ролі ў ёй прэзыдэнта».**

Лукашэнкавы словы адразу-ж пайшлі на тэлеграфныя драты ў сьвет. Газэта «Известия» (28.XI) назвала выказваньне беларускага прэзыдэнта «сэнсацыйным прызнаньнем». Менская газэта «Свабода» (28.XI) выпіскі з Лукашэнкавага інтэрв'ю нямецкай газэце падала пад загалоўкам: «Лукашэнка ўважае, што ў Гітлера ёсьць чаго павучыцца».

**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 30 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 30 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## БЕЛАРУСКІ НАРОДНЫ ФРОНТ «АДРАДЖЭНЬНЕ»

Дарагія суайчыньнікі!

Віншуем Вас з нагоды вялікага сьвята — 75-х угодкаў Слуцкага Збройнага Чыну. Лістапад – снежань 1920 году ўвайшоў у гісторыю Беларусі як новы этап змаганьня за незалежнасьць нашай Радзімы.

Паўстанцкія батальёны Слуцкага і Грозаўскага палкоў, дзейнасьць якіх каардынавалася з нашай старажытнай сталіцы Вільні, утрымліваючы ў гэты час пад сваім кантролем абшары Случчыны, прадэманстравалі ўсяму сьвету імкненьне нашых дзядоў са зброяй у руках бараніць ідэі Беларускай Народнай Рэспублікі.

Гераічнае змаганьне слуцкіх паўстанцаў у раёне Садавічаў, Жывагладавічаў, Быстрыцы, Вызны, Лютавічаў, Капыля, Морачы ды іншых мейсцаў зь перасяжнымі сіламі ворага — яскравая старонка ў летапісе барацьбы беларускага народу за сваю свабоду і незалежнасьць.

Вечная слава героям Слуцкага Збройнага Чыну!

Жыве Беларусь!

**Зянон Пазьняк**
**Старшыня Беларускага Народнага Фронту**
21 лістапада 1995 г.
г. Менск

## «ЗГУРТАВАНЬНЕ БЕЛАРУСАЎ СЬВЕТУ «БАЦЬКАЎШЧЫНА»

Шаноўнае спадарства!

Ад імя Ўправы ЗБС «Бацькаўшчына» віншуем з нагоды 75-х угодкаў Слуцкага Збройнага Чыну. Сёньня мы павінны ня толькі прадоўжыць справу Слуцкіх паўстанцаў, але і ісьці далей у сваім змаганьні за Беларусь, бо зараз маем больш рэальны шанс для будаўніцтва незалежнай беларускай дзяржавы і трэба скарыстаць яго.

Будзем яднацца і працаваць дзеля гэтай сьветлай мэты.

Жыве Беларусь!

**Ганна Сурмач**
**Старшыня Рады**

15.11.95 Менск

## БЕЛАРУСКА Ў НЬЮЁРКСКІМ МАРАТОНЕ

У славутым ньюёркскім маратоне 12 лістапада сёлета у лік 10-х найлепшых бягуноў сярод жанчын увайшла спартсмэнка зь Беларусі Мадзіна Біктагірава, якая пакрыла дыстанцыю 26 міляў за 2 гадзіны 37 хвілін 46 сэкундаў. Час паўторнай чэмпіёнкі маратону, Тэглі Лярупэ з Кеніі, быў 2 гадз. 28 хвілін 6 сэкундаў.

## ЗАМЕЖНЫ ГАНДАЛЬ БЕЛАРУСІ: ЗРУХ НА ЗАХАД

Беларускі міністар вонкаваэканамічных сувязяў Міхаіл Марыніч у інтэрв'ю газэце «Зьвязда» (23.IX.95) сказаў, што Беларусь за апошнія чатыры гады пабольшыла свой экспарт на 30 працэнтаў. Пры чым заходнім дзяржавам (гэткім як Нямеччына, ЗША, Англія і інш.) прадаецца ня толькі сыравіна, але й складанае машынабудаўнічае абсталяваньне.

Калі ў 1991 годзе тавараабмен з Захадам станавіў 10-12 працэнтаў, — сказаў Марыніч, — дык цяпер ён вырас да 50 працэнтаў, «такі-ж тавараабмен, як і з Расеяй».

Беларусь рэклямуе свае тавары праз гандлёвыя цэнтры, адкрытыя апошнім часам у Рызе, Вільні, Бухарэсьце, Карльсруэ; плянуюцца такія цэнтры ў Ст. Пецярбургу, Іране, Аб'еднаных Арабскіх Эміратах, Кітаі, а таксама ў Боне і Ляйпцыгу.

Адна зь вялікіх праблемаў у наладжваньні гандлёвых цэнтраў, сказаў Марыніч, гэта вялізарнейшы недахоп кваліфікаваных спэцыялістаў зь веданьнем замежных моваў. Цяпер у менскіх ВНУ рыхтуюцца адпаведныя кадры. «Мы робім стаўку на моладзь, — сказаў міністар, — і вышкольваем яе ў нашых замежных эканамічных місіях у Аўстрыі, Злучаных Штатах і Англіі».

Цікава, што пры ўсіх гутарках аб эканамічнай інтэграцыі з Расеяй, Беларусь траціць расейскі рынак. «Польшча, Нямеччына і скандынаўскія краіны, — прызнаўся Марыніч, — выцясьняюць нас (з расейскага рынку), яны выцясьняюць нас у галіне нашых традыцыйных прадуктаў — мяса, малочныя вырабы, бульба і гародніна».

## «БЮЛЕТЭНЬ БНФ» № 1, Верасень 1995

Рэдакцыя бюлетэню не паведамляе, як часта ён будзе выходзіць, але трэба пажадаць ёй удачы ў далейшай працы над гэтым новым патрэбным выданьнем. На васьмёх старонках першага нумару: З. Пазьняк — Аб становішчы ў краіне; Ю. Хадыка — Аб «Круглым стале»; Аб выбарах — Дыскусія; В. Вячорка — Аб беларускай школе; Рашэньне Сойму.Бюлетэнь рыхтавалі: В. Асташынскі, В. Вячорка, В. Сіўчык і А. Шагун.

## ЭНЦЫКЛЯПЭДЫЯ ГОРАДУ НЬЮ-ЁРКУ

26-га кастрычніка ў памешканьні Ньюёркскага Гістарычнага Таварыства адбылася нештадзённая падзея ў жыцьці сямімільённага гораду: адзначаўся выхад з друку Энцыкляпэдыі гораду Нью-Ёрк. На ўрачыстачцы былі прысутныя высокія чыноўнікі гораду і штату Нью-Ёрк, прадстаўнікі Вашынгтону, дзесяткі прадстаўнікоў розных унівэрсытэтаў і гарадоў Амэрыкі, асобы зь бізнэсаўскіх колаў і ад шырокага грамадзтва. Ушанавалі падзею мэр гораду Рудольф Джульяні і губэрнатар штату Джордж Патакі. Падзея сапраўды нештадзённая, калі ўзяць на ўвагу, што гэта першая такога маштабу энцыкляпэдыя. Рыхтавалася яна на працягу блізу 12-х гадоў, а ў працы над ёй узялі ўдзел каля 700 дасьледнікаў, якія далі ў кнігу каля 5-х тысячаў артыкулаў.

Дасьледчык знойдзе ў энцыкляпэдыі бадай вычарпальную інфармацыю пра горад Нью-Ёрк ад самага заснаваньня да сёньняшняга часу. Муніцыпальная структура, транспарт, эканоміка і дзейнасьць Ўол-Стрыту, друк і камунікацыя, школьніцтва і культурнае жыцьцё гораду, значаньне Нью-Ёрку ў агульнаамэрыканскім жыцьці і сотні, сотні іншых тэмаў дэтальна апрацаваныя й насьветленыя ня толькі ў гістарычным разрэзе, але і ў дынамічнай штадзёншчыне 90-х гадоў нашага стагодзьдзя.

Шмат дадзена ў энцыкляпэдыі інфармацыі пра пэрсаналіі, у той ці іншы спосаб зьвязаныя з жыцьцём гораду. Неадназначна рэцэнзэнты, а іх да канца лістапада было ўжо некалькі, выказаліся, што гэтая энцыкляпэдыя — выдатны даведнік, а выхад яе — выдатная гістарычная падзея, «на якую было варта чакаць 350 гадоў» (цытата з рэцэнзіі ведамага амэрыканскага дзеяча і дасьледчыка Ўільяма Баклі).

Для беларуса-амэрыканца важна тое, што ў энцыкляпэдыі ёсьць таксама і інфармацыя пра беларусаў, а аўтар інфармацыйнае даведкі пра беларусаў — др. Вітаўт Кіпель.

Пра беларусаў у энцыкляпэдычнай форме сказана наступнае: беларусы ў Нью-Ёрку пачалі сяліцца ад 1890-х гадоў, але найболей іх прыехала паміж 1910 і 1913 гадамі. Былі гэта эмігранты з рэгіёнаў Менску, Вільні, Горадні, Віцебску, Берасьня, Беластоку, Гомеля, Магілёва, Смаленску ды Пінску. На жаль, эміграцыйныя ўлады не запісвалі беларусаў пад іхнай нацыянальнасьцю, а найчасьцей паводля рэлігійнае прыналежнасьці — праваслаўныя ці каталікі, і запісвалі іх у графу ці расейцаў ці палякаў.

Першая беларуская арганізацыя ў Нью-Ёрку — Беларускі Нацыянальны Камітэт — паўстала ў 1921 годзе. У пэрыядзе паміж дзьвюма сусьветнымі войнамі зь Беларусі прыяжджала эмігрантаў ня шмат, найбольш прыяжджалі габрэі. Па Другой сусьветнай вайне прыехала новая хваля беларускіх эмігрантаў, якія ў Нью-Ёрку заснавалі новыя арганізацыі: (у храналягічным парадку) Злучаны Беларуска-Амэрыканскі Дапамаговы Камітэт (1948), Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне (1949), Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва (1951), Беларуска-Амэрыканская Дапамога (1957) і Беларуска-Амэрыканскае Аб'еднаньне (1965). У пачатку-ж 1950-х гадоў у Нью-Ёрку быў заснаваны праваслаўны беларускі прыход у юрысдыкцыі Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ды ад 1950 году і да цяперашняга часу выдаецца газэта «Беларус», якую спансаруе Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне. Адзначае аўтар таксама дзейнасьць у Нью-Ёрку Фундацыі імя Пётры Крэчэўскага ды

*(Працяг на 6-й ст.)*

## ЛЕКЦЫЯ ПАСЛА СЯРГЕЯ МАРТЫНАВА

Сяргей Мартынаў, пасол Беларусі ў Вашынгтоне, выступіў у прэстыжным Кенанскім Інстытуце Паглыбленых Дасьледаваньняў зь лекцыяй пра беларускую гісторыю і ейны ўплыў на разуменьне грамадзянамі Беларусі пытаньняў замежнай палітыкі, а таксама пра няправільныя пагляды Захаду на Беларусь ды недахопы амэрыканскае дапамогі Беларусі.

Пераказ лекцыі сп. Мартынава зьмешчаны ў бюлетэні Кенанскага Інстытуту "Meeting Report" (vol. XIII, No. 2. By Julia Smith) пад заг. «Выклік беларускай бясьпецы».

Быўшы падпарадкаванай іншым дзяржавам на працягу прынамся двух стагодзьдзяў, — сказаў сваім слухачом пасол, — Беларусь у постсавецкім пэрыядзе займела нарэшце магчымасьць заняцца пытаньнем уласнае нацыянальнае бясьпекі. Сёньня Беларусь, Захад і Расея мусяць разглядзець пытаньне месца Беларусі ў межах глябальнае бясьпекі. Беларусь упяршыню пачала узважваць палітыку нацыянальнай бясьпекі ў 1990 годзе, калі выступіла з прапановай у ААН стварыць «паласу вольную ад ядзернай зброі», куды па магчымасьці ўвайшлі-б Беларусь, балтыцкія дзяржавы, Украіна і іншыя ўсходняэўрапейскія краіны.

Адно з галоўных заданьняў Беларусі, падкрэсьліў пасол, — знайсьці і ўтрымаць збалянсаваную пазыцыю паміж Усходам (Расеяй) ды Захадам (Эўропай і Злучанымі Штатамі).

Гаворачы пра няправільныя ўяўленьні на Захадзе пра Беларусь, Мартынаў зазначыў, што рэформы на Беларусі адбываюцца, довадам чаго можа быць прызнаньне Міжнародным Валютным Фондам крэдытаў. Агулам бяручы, сказаў пасол, Беларусь дастала ня шмат дапамогі ад ЗША, тым часам як больш палітычнай і эканамічнай увагі з боку Амэрыкі, бясспрэчна, паспрыяла-б рэформам на Беларусі.

Пасол Мартынаў сказаў, што прызнатасьць Захаду Расеяй, Югаславіяй, ядзернай зброяй, а таксама ненаважанасьць бачыць Беларусь асобную ад Расеі перашкаджаюць Беларусі ў прыцягненьні да сябе большае ўвагі з боку заходніх дзяржаваў.

## БЕЛАРУСКІЯ ВУЧОНЫЯ НА МІЖНАРОДНЫМ СЫМПОЗІЮМЕ

Ад 9 да 13 кастрычніка 1995 г. у Чыкага адбываўся міжнародны сымпозіюм, у якім узялі ўдзел таксама і навукоўцы зь Беларусі. Пра гэта я даведаўся ад сп. Слаўкі Гірнага, які супрацоўнічаў з арганізатарамі сымпозіюму па лініі дапамогі ў раскватэраваньні землякоў-украінцаў, што прыяжджалі на канфэрэнцыю. Ён падаў мне і прозьвішчы запрошаных на сымпозіюм прадстаўнікоў Беларусі: Сяргея Распопава, дацэнта БДУ, і Сяргея Лазарука, кандыдата тэхнічных навук.

Усіх зь Беларусі на сымпозіюм было запрошана сем асобаў ды ад двух кандыдатаў зь Беларускага Тэхналягічнага Ўнівэрсытэту, спсп. А.І. Кліндзюка і С.Е. Масюка, былі прынятыя даклады для зачытаньня на сымпозіюме. Сакратар Беларуска-Амэрыканскай Нацыянальнай Рады (БАНР) спраўляўся ў Беларускім пасольстве ў Вашынгтоне, дзе сп. Аляксандар Астроўскі ахвоча паабяцаў дапамогу ў кантактах з запрошанымі.

Беларускім удзельнікам сымпозіюму БАН Рада падшукала кватэры ў паважаных беларускіх эміграцтаў, загарантавала спатканьне на аэрапорце і неабходны транспарт на працоўныя сэсіі. У пятніцу на аэрапорце ў Чыкага спсп. М. Латушкін і М. Каленік сустракалі сп. Распопава, а ў суботу сп. Латушкін з дачкой там-жа спаткалі сп. Лазарука. Першага заквартэраваў у сябе сп. Каленік, другога — сп. Латушкін. У нядзелю гасьцей запрасілі наведаць беларускую праваслаўную парафію Сьв. Юрыя, дзе пасьля Літургіі адбылося вянчаньне і вясельны абед.

На сымпозіюме абодва беларускія навукоўцы прыцягнулі да сябе ўвагу. Вынікамі досьледаў сп. Лазарука зацікавіліся калегі зь Японіі, ЗША, Нямеччыны, Грэцыі і шмат якіх іншых краінаў. Дакладам сп. Распопава зацікавіўся дэкан Чыкагаўскага ўнівэрсытэту і папрасіў яго прачытаць у суботу лекцыю для студэнтаў.

Сп. Лазарук суботу меў вольную. Ён азнаёміўся з горадам, сфатаграфаваўся перад беларускай уніяцкай царквой Хрыста Спаса, цікавіўся жыцьцём эміграцыі. Пры гэтым ён сказаў, што як-бы заможна эмігранты ні жылі, ён сам ніколі не пажадаў-бы быць эмігрантам: ён любіць сваю Беларусь зь ейнай цудоўнай прыродай, глядзіць аптымістычна на жыцьцё ды з задаваленьнем працуе на лепшую будучыню свайго народу.



*Сяргей Лазарук (зьлева), Мікалай Латушкін і а. прат. Дзімітры Башко перад алтаром царквы Сьв. Юрыя ў Чыкага*

Пасьля напружаных навуковых паседжаньняў беларускія вучоныя засталіся задаволеныя працаю сымпозіюму, шырокімі знаёмствамі з новымі калегамі ды з аптымізмам вярталіся ў Беларусь, запрашаючы нас, эміграntаў, у госьці.

**Мікалай Латушкін**

## *СПАД ВАРТАСЬЦІ БЕЛАРУСКАГА РУБЛЯ?*

Міжнародны Валютны Фонд (МВФ) запрапанаваў Нацыянальнаму Банку Беларусі (НББ) перастаць умешвацца ў валютны абмен у намаганьні стабілізаваць вартасьць беларускага рубля супраць даляра. Паводле паведамленьня Беларускага радыё ад 1 лістапада, МВФ сказаў, што НББ, пачаўшы ад студзеня сёлета, штучна ўтрымліваё рубель на ўзроўні 11.500 за даляр. Тым часам праграма макраэканамічнай стабілізацыі краіны, на якую пагадзіўся беларускі ўрад у верасьні сёлета, прадбачыць валютны абмен, свабодны ад «адміністрацыйнага рэгуляваньня». МВФ парэкамэндаваў абнізіць курс рубля да 15.294 за даляр. У іншым выпадку Беларусь будзе разыкаваць стратай наступнае раты крэдыту стэнд-бай.

*(Паводле OMRI Daily Digest, No. 214, Part II, 2. nov. 95)*

## БЕЛАРУСАВЕДА НА МІЖНАРОДНЫМ ФОРУМЕ

У польскім горадзе Познані адбылася 26-28 верасьня сёлета Шостая міжнародная канфэрэнцыя над назовам «Эўрапейская русістыка і сучаснасьць». Нягледзячы на тое, што працоўная мова была расейская, перад дакладамі і пасьля іх у залях і калідорах гучэла ангельская, беларуская, украінская і, вядома, польская мова. Навукоўцы зьехаліся амаль з усіх краін сьвету: Аўстраліі і Расеі, Амэрыкі і Чэхіі, Нямеччыны, Баўгарыі і шмат іншых краінаў. Беларусістыку прадстаўлялі Самуіл Букчын (Беларусь, Акадэмія Навук Беларусі) і Зіна Гімпелевіч (Канада, унівэрсытэт Ватэрло). Доктар Букчын зрабіў даклад: «Беларуская тэма ў расейскай літаратуры 19-га стагодзьдзя». Доктар Гімпелевіч прачытала свой на тэму: «Традыцыйны тып ‘беднага чалавека’ ў апавяданьнях Васіля Быкава». Абодва даклада выклікалі шмат зацікаўленьня. Даклад Гімпелевіч надрукавалі ў зборніку канфэрэнцыі, але не абыйшлося без канфузу. Васіля Быкава перахрысьцілі на Василия. А пасля пратэсту з боку нашых беларусаў, гаспадары паабяцалі выправіць памылку. Беларусы, вядома, нічога ня мелі супраць іншай рэчы: у залях канфэрэнцыі віселі сьцягі краін-удзельніц канфэрэнцыі. На месцы беларускага красаваўся бела-чырвона-белы сьцяг. Жыве Беларусь!

**К. Матылевіч**

## «ПРАЕКТ БЕЛАРУСЬ» — “OPERATION BELARUS”

Гэта праграма, якая мае на мэце палепшаньне стану здароўя зубоў беларускіх дзяцей. Праект быў запачаткаваны ў Канадзе лёнданскім унівэрсытэтам Заходняга Антарыё (University of Western Ontario, UWO). Старшыня праекту — лёнданскі лекар, прафэсар унівэрсытэту др. Барыс Рагуля. Дырэктар праекту — праф. Гэральд Райт, які ўзначальвае дзіцячую дэнтыстычную клініку пры нашым унівэрсытэце.

Др. Рагуля узяў на сябе абавязак збору грашовай дапамогі сярод беларускай дыяспары ня толькі ў Канадзе, але і ў ЗША, Аўстраліі, Ангельшчыне ды ў іншых краінах, дзе толькі жывуць беларусы. Нашыя намаганьні далі добры вынік, бо мы сабралі больш за 30 тыс. даляраў, каб запачаткаваць гэтую акцыю. Дзякуючы гэтым ахвяраваньням, мы змаглі запачаткаваць наш праект. Канадыйскі ўрад, які даваў стыпэндыі для Расеі, Украіны, Казахстану ды іншых рэспублік, уключыў і Беларусь у праграму дапамогі пасьля нашых захадаў перад Міністэрствам замежных спраў.

Мы тут гасьцілі праф. Едуарда Мельнічэнку, дырэктара дзіцячай зубной клінікі ў Менску, і цяпер маем двух лекароў-дэнтыстаў зь Менску, якія прыехалі да нас, каб пазнаёміцца з сучаснымі спосабамі лячэньня.

Міністэрства здароўя Рэспублікі Беларусь асыгнавала 100 тыс. даляраў на закуп мадэрных крэслаў. Фундацыя Сораса абяцала даць дапамогу і ўжо перадала на наш унівэрсытэт 30 тыс. даляраў. Аднак патрэбы яшчэ вялікія. Плянуем наступны год выслаць нашых дэнтыстаў у Менск, каб там на месцы пазнаёмілі дэнтыстаў з нашымі мэтадамі лячэньня. На Беларусі адчуваецца вялікая патрэба ў мадэрных інструмэнтах, леках і тэхнічным абсталяваньні. Гэта будзе вымагаць яшчэ шмат сродкаў і вашай цэннай фінансавай дапамогі. У Менску мы маем добрую дапамогу ад др. Алаксея Кубаркі, рэктара менскага Інстытуту здароўя, ды ужо вышэй успомненага др. Эдуарда Мельнічэнкі.



*Др. Эдуард Мельнічэнка ў дзіцячай зубной клініцы ў Менску. На ніжнім здымку — тая самая клініка пасьля атрыманьня дапамогі з Канады дзякуючы праграме «Праект Беларусь».*



Др. Мельнічэнка ў артыкуле у «Мэдыцынскім Весьніку» за жнівень 1995 г. піша: «Увесь сьвет ведае аб трагедыі беларускага народу. Мы вельмі цэнім пазытыўны водгук лёнданскага ўнівэрсытэту, які, дзякуючы стараньням др. Б. Рагулі і праф. Гэральда Райта, запачаткаваў ‘Праект Беларусь’. Др. Райт наведаў Менск у 1993 г. і пабачыў жахлівы стан зубнога здароўя, асабліва ў дзяцей, і гэта дадало яму больш энэргіі да ‘Праекту Беларусь’».

Шчыры дзякуй усім тым, хто спрычыніўся да ажыцьцяўленьня гэтага праекту, хоць яшчэ шмат засталося да поўнага выкананьня яго.

Я, як сябра камітэту «Праект Беларусь», заклікаю Вас і надалей дапама-

*(Працяг на 4-й ст.)*

## ІНТЭРНАЦЫЯНАЛЬНЫ ФЭСТЫВАЛЬ У БАСТОНЕ

Ужо другі год запар беларусы ўзялі ўдзел у Бастонскім Інтэрнацыянальным Фэстывалі ў гор. Бастоне, штат Мэсачусэтс. Наш удзел у фэстывалі стаў магчымым праз стараньні Беларуска-Амэрыканскага Культурна-Асьветнага Таварыства ў Нью-Джэрзі з дапамогаю беларусаў Бастону. Як і ў мінулым годзе, ініцыятыва нашага ўдзелу ў фэстывалі выйшла ад бастонскага амэрыканца беларускага паходжаньня Язэпа Пецэвіча. Сам ён ня мог быць на фэстывалі, бо мае часовую працу ў Менску. Як і ў мінулым годзе, сп-ня Галіна Русак і др. Алла Рамано ўзялі на сябе абавязак наладжаньня й вядзеньня беларускага стэнду на фэстывалі. Зь вялікай дапамогай прыйшлі тут Васіль Русак ды студэнты Сяргей Трыгубовіч і Ільля Вострыкаў. З Бастону нам шмат памаглі нядаўна пераехаўшая сюды Кім Рамана, студэнт Павал Белагур у плянаваньні выставы ды разьмяшчэньні экспанатаў, Павал Андрушаў, сп-ня Ганна Лапушынская, сп-ва Вінцэнт і Алена Зарэцкія ды Язэп Здановіч.




*Сяргей Трыгубовіч і Ільля Вострыкаў ля беларускага стэнду на фэстывалі ў Бастоне.*

Галоўная мэта фэстывалю — знаёміць амэрыканскае грамадзтва ды асабліва школьную моладзь, у параўнальна даступны спосаб, са сьветам: жыцьцём і культурай розных народаў у галінах музыкі, танцу, страваў ды народнага мастацтва. Сёлета ў фэстывалі было прадстаўлена больш як 80 народаў сьвету, у тым ліку й мы, беларусы. Мы паказвалі ў асноўным народную творчасьць: тканыя посьцілкі, разьба, вырабы з саломы й лёну, народныя строі ды іншыя характэрныя для Беларусі сувэніры.

Да нашага распараджэньня былі дадзены чатыры даўгія сталы, якія былі агароджаны з трох бакоў высокімі палатнянымі занавесамі. Фронт быў адкрыты для наведнікаў. На правым баку занавесы былі паказаны фатаграфіі сп. Анатоля Кляшчука, што адлюстроўваюць трагедыю Чарнобыля. У цэнтры занавесы быў памешчаны беларускі гэрб Пагоня, зь левага боку — беларускі сьцяг. На гэтых-жа сьценах былі разьмешчаны народныя строі, ручнікі й абразы. На сталах былі паказаны беларускія шкатулкі, саламяныя й льняныя лялькі, вырабы з дрэва, кнігі й брашуры і карта Беларусі.

Трэба прызнаць, што беларуская выстава была наладжана густоўна й добра рэпрэзантавала беларускае мастацтва й культуру ды беларускую нацыянальную справу наагул. Мы атрымлівалі цэлы час камплімэнты ад наведнікаў адносна зьместу й якасьці нашай выставы. Тым, што глыбей цікавіліся Беларусьсю, мы давалі брашуры ды тлумачылі ля карты Беларусі. Былі выпадкі, што трэба было бараніць Навагрудак і Пагоню ад ігнарантаў.

Першыя дні фэстывалю былі ў асноўным прысьвечаны для школьнікаў, якіх навучальныя ўстановы хочуць зацікавіць глыбей замежным сьветам ды яго культурай. Вучні гэтыя мелі «пашпарты» і ім трэба было даставаць «візы» ў форме пячаткі або напісу назову краіны. Аўтару гэтых радкоў давялося хіба тысячу разоў напісаць "Belarus" на гэтых «пашпартах». Пазьней, наш малады «дыплямат» Ільля Вострыкаў выконваў гэтае заданьне больш прафэсіянальна, ставячы пячатку "Belarus".

Час ідзе і зь ім забываюцца цяжкасьці, зьвязаныя з ладжаньнем такіх выставак. І тады больш ясна ўяўляецца факт, што выстаўкі, якія наведвае каля сотні тысяч людзей, вартыя нашых захадаў. Шмат з гэтых людзей першы раз даведаліся пра Беларусь і шмат хто зь іх зразумеў, чаму Беларусь хоча стаць вольнай дзяржавай, такой, якімі ёсьць амаль усе іншыя краіны, што ўдзельнічалі ў гэтым фэстывалі.

Мы хочам падзякаваць пры гэтай нагодзе рэдактару часапісу "Belarusian Review" за дазвол ужываць ягоныя інфармацыйныя матар'ялы пра Беларусь падчас фэстывалю ў Бастоне.

**Р.В.**

## ВЫСТАЎКА АБРАЗОЎ ВАДЗІМА ЎДАВЕНКІ

У нядзелю 19 лістапада ў Віляноваўскім унівэрсытэце, што знаходзіцца ў прыгарадзе гор. Філядэльфія, адбылося прыняцьце з нагоды выстаўкі абразоў мастака зь Беларусі, Вадзіма Ўдавенкі. Каля сарака абразоў Удавенкі, які працуе ў тэхніцы бацікс, прыцягнулі ўвагу як шырокае публікі, гэтак і крытыкаў. Тэматыка Ўдавенкавых твораў у ладнай меры іканаграфічная, біблейская. Работы ягоныя адзначаюцца далікатнай дакладнасьцяй малюнку, маюць у сабе аўру клясычных старасьвецкіх абразоў. Выстаўка азагалоўленая «Вобразы са старых сьценаў».

Тры газэты, у тым ліку найбольш ведамая ў горадзе, «Філядэльфія Энкўайэрэр», зьмясцілі ілюстраваныя артыкулы пра выстаўку і мастака. Заўважаецца і камэрцыйная ўдача выстаўкі, на якой добры дзесятак малюнкаў (у цане ад 400 да 2500 даляраў) былі пазначаныя словам «Прададзены».

На прыняцьці наведнікі мелі нагоду і пачаставацца, і пазнаёміцца з самым мастаком, чалавекам сымпатычным і сьціплым, а таксама з адным з арганізатараў сустрэчы, прадпрыймальным і энэргічным Уладзімірам Адашкевічам, беларускім студэнтам Віляноваўскага ўнівэрсытэту.

Выстаўка, якая адчынілася 15 лістапада, будзе трываць да 20 сьнежня 1995 г.

**Я.З.**

## МЕСЯЦ ГІСТОРЫІ ЖАНЧЫНЫ Ў КАНАДЗЕ

Каб зьвярнуць увагу і ўсьведаміць важную ролю, якую выконвае жанчына ў грамадзтве, урад Канады ў 1992 годзе абвесьціў кастрычнік «Месяцам гісторыі жанчыны». Тэмай сёлетняга Месяца была «Роля жанчыны ў адукацыі».

Сёлета з нагоды Месяца гісторыі жанчыны Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады (ККБК) ладзіў 21 кастрычніка імпрэзу ў залі Беларускага Рэлігійна-Грамадзкага Цэнтру ў Таронта. У праграму ўвайшлі: выстаўка, прысьвечаная жанчыне; два даклады пра выдатных жанчын Канады; два пра знакамітых беларусак; разглядалася таксама справа «Ўсебеларускага Жаночнага фонду Еўфрасіньні Полацкай», заснаванага два гады таму назад у Менску пад старшынствам паэткі Валянціны Коўтун. (Зварот старшыні гэтае арганізацыі "Да беларусаў сьвету» зьмешчаны ў № 428 «Беларуса».)

Галоўны стол выстаўкі прысьвечаны быў Сьв. Еўфрасіньні Полацкай, другі — літаратуры, трэці — выяўленчаму мастацтву жанчын-беларусак.

Кіраўніком вечару была старшыня ККБК др. Раіса Жук-Грышкевіч. Лын Кулеш, беларуска роджаная ў Канадзе, бацькі якое прыехалі ў Канаду на пачатку гэтага стагодзьдзя, прачытала даклад у ангельскай мове пра выдатнага пэдагога Паўліну Джувэт, якая ў 1973 годзе сталася першай жанчынай-прэзыдэнтам унівэрсытэту ў правінцыі Брытанская Калюмбія.

Каця Усовіч, настаўніца малодшага пакаленьня, нядаўная імігрантка зь Беларусі, гаварыла пра непакорную й непахісную беларускую патрыётку, паэтку Ларысу Геніюш.

Ірэна Собаль родам з Гародні, студэнтка палітычных навукаў у Ёркскім Унівэрсытэце, гід і перакладчыца для беларускіх алімпійцаў у часе матэматычнай алімпіяды 1995 году ў Таронта, расказала па-ангельску пра Агнус Мэкфэйл, першую жанчыну-сябру Парлямэнту Канады, якая мужна прабівалася праз барыкады забабонаў мужчынскага сьвету, што не дапускалі жанчын да палітыкі, і ў 1922 годзе была першы раз выбрана сябрам Парлямэнту Канады. Пераабіралі яе ня раз.

Раіса Жук-Грышкевіч гаварыла пра ўнучку слаўнага Полацкага князя Ўсяслава Чарадзея, князёўну Прадславу-Еўфрасіньню Полацкую, асьветніцу Беларусі, пра якую старажытны твор «Жыцьцё» кажа, што яна «У небе лётаючы арол із заходу на ўсход, як сонечны прамень прасьвяціла ўсю зямлю Полацкую». Гэта яна, маладая манашка ў кельлі полацкага Сафійскага сабору, «нача кнігі пісаці сваімі рукамі». Гэта яна — заснавальніца і ігуменьня жаночнага манастыра, а пасьля заснавальніца і мужчынскага, у якіх зарганізавала «скрыпторыі» для перапісваньня кніг і школы для дзяцей. Гэта яна, мэцэнат мастацтваў, пабудавала мураваную на месца драўлянае царкву Сьв. Спаса ў Сяльцы над Палатой. Каб аздобіць полацкія цэрквы іконамі, Еўфрасіньня заснавала пры адным з манастыроў іконапісную майстэрню. І ўбачыўшы прыгажосьць завершанай мураванай царквы Сьвятога Спаса, Еўфрасіньня ўзьнесла й мураваную царкву Сьвятой Багародзіцы ды аздобіла яе іконамі й аддала мужчынскаму манастыру. На ейны заказ полацкі майстар Лазар Богша зрабіў крыж — шэдэўр беларускага ювэлірнага мастацтва, помнік старажытнабеларускага пісьменства.

Мікола Ганько расказаў пра дзейнасьць Канадыйскага Фонду Дапамогі Ахвярам Чарнобыля ў Беларусі і падкрэсьліў, што заснавалі яго ў 1989 годзе тры беларускі: Івонка Сурвілла, др. Зіна Гімпелевіч і Паўліна Пашкевіч. Кіруе ім Івонка Сурвілла, і ў арганізацыі працуе куды больш працэнт жанчын, як мужчын.

У час вечара гаварылася пра несправядлівасьць, якую жанчыны на працягу гісторыі церпяць ад роду мужчынскага, але трэба таксама сказаць, што на нашым вечары гэта былі мужчыны, якія адгукнуліся на заклік старшыні Ўсебеларускага Жаночнага Фонду Еўфрасіньні Полацкай, зрабілі ахвяраваньні й заклікалі іншых зрабіць складку на Фонд. Былі імі Антон Маркевіч з Ашавы й Кастусь Шаршуновіч з Таронта.

На канец Марыя Ганько частавала нас кавай зь пірагом, які «сваімі рукамі» зрабіла Ірэна Касьцюковіч з канадыйскага Слуцку. На вечары была й госьця зь Беларусі маці сп. Кардонскага, а таксама бабка Ірэны Собаль з Гародні, якая падарыла старшыні ККБК разьбу выявы архітэктуры Гародні са словамі: «Добра, што не забываеце пра сваё!»

Удалы вечар Месяца гісторыі жанчыны закончыўся адсьпяваньнем гімну, тэкст якога напісала жанчына — Натальля Арсеньнева — «Магутны Божа».

**Раіса Жук-Грышкевіч**

## «ПРАЕКТ БЕЛАРУСЬ»

*(Заканчэньня з 3-й с.)*

гаць у рэалізацыі гэтага праекту. Ахвяры можна высылаць на:

Dr. Boris Ragula
579 Willowdale Ave.
London, Ont. N5X-1J2,
or
Dr. Gerald Z. Wright
Professor and Chairman, Division of Orthodontics and Pediatric Dentistry, Faculty of Dentistry, UWO,
London Canada N6A-5C1

Унівэрсытэт вышле паквітаваньні, якія ўшаноўваюцца таксама амэрыканкі Службай Фэдэральнага Ападаткоўваньня (IRS).

**Праф. Чарльс Рууд**
**Сябра Камітэту «Праект Беларусь»**

*З жыцьця ў Кліўлендзе*

## СЬВЯТА ДАЖЫНКАЎ

Парафія Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлендзе адзначыла беларускае традыцыйнае сьвята Дажынкі, а таксама амэрыканскае сьвята Галаўін у нядзелю 29 кастрычніка ў Грамадзкім Цэнтры Полацку. Урачыстасьць пачалася шоўшы, Оля Лукашэвіч і Анатоль Лук'янчук прывіталі прысутных са сьвятам дажынкаў хлебам і сольлю, пажадалі ім добрага здароўя, шчасьлівага й вясёлага жыцьця на будучыню.

Рэпэртуар хору складаўся з патрыятычных, народных песьняў, жартоўных, рамантычных і солё Любы Сяргеевіч. На заканчэньне першае часткі канцэрту засьпявалі ўсе разам,



*Удзельнікі сьвята Дажынак у Кліўлендзе. Фота К. Калошы*

Божаю службаю ў залі Полацку. Затым настаяцель а. прат. Міхась Страпко адслужыў малебен, прысьвечаны дажынкам ды пасьвяціў плады жніва: хлеб, вянок, сплецены з кветак, каласкі збожжа й гародніну. У канцы ён сказаў казань, прысьвечаную гэтай старой традыцыі на Бацькаўшчыне, і дадаў, што гэтая традыцыя ў апошнія часы не ўшаноўвалася ў Беларусі, але цяпер павінна аднаўляцца.

Пасьля смачнага абеду, падрыхтаванага жанчынамі, адбыўся канцэрт. Сцэна залі была ўпрыгожана збожжам, сенам і кветкамі, а таксама гарбузамі, кукурузай (амэрыканская традыцыя сьвята Галаўін). У канцэрце прыняў удзел жаночны хор «Васілёк» пад кіраўніцтвам Олі Лукашэвіч і пад акампанімэнт заслужанага артыста Фёдара Паўлаўца. Праграма пачалася ўваходам харыстых у нацыянальных вопратках у залю, якія няслі: хлеб, вянок, жніўныя каласкі, сьпяваючы песьню «Поле, ты поле» на словы Я. Купалы, музыка М. Куліковіча. Увайшоўшыся за рукі ў коле, песьню «Люблю наш край».

У другой частцы канцэрту выступіла ведамая й заслужаная артыстка Валя Пархоменка-Казак з мужам Алесем і дачкою Олею, якія вельмі добра выканалі цэлы шэраг папулярных народных, жартоўных песьняў, а таксама пару у ангельскай мове, што вельмі спадабалася прысутным.

Апошняй часткай праграмы былі супольныя танцы пад аркестру Пархоменкі-Казакоў. Вельмі прыемна было танцаваць і публіка весялілася й цешылася пад напевы многіх беларускіх песьняў і танцаў.

Сьвяткаваньне прайшло вельмі добра з пысутнасьцю каля 140 асобаў. Таксама прынялі ўдзел госьці з Дэтройту і іншых суседніх цэркваў Кліўленду.

Вялікая падзяка належыць тут парафіяльнай радзе за добрае наладжаньне сьвята і жаночнаму хору «Васілёк» за актыўны ўдзел у праграме дня.

**К.П.**

## 80-Я ЎГОДКІ АНДРЭЯ СТРЭЧЫНЯ

Беларуска-Амэрыканскі Грамадзкі Цэнтар Полацак наладзіў апошні ў сэзоне пікнік, які адбыўся ў нядзелю 17 верасьня ў Полацку. Пасля Божае службы, перад абедам, старшыня аддзелу БАЗА Янка Ханенка зрабіў вялікую неспадзеўку для Андрэя Стрэчыня, выклікаўшы яго наперад залі: прывітаў яго з 80-мі ўгодкамі жыцьця, падзякаваў яму за вялікую й ахвярную працу, праробленую ў беларускай калёніі, дзе ён быў актыўным сябрам многіх арганізацыяў, пажадаў добрага здароўя, вясёлага й шчасьлівага жыцьця на доўгія гады. У канцы ўручылі яму плякету з надпісам: «Уручаецца Андрэю Стрэчыню ганаровае прызнаньне за ўсе яго гады вернай і адданай службы для беларуска-амэрыканскай калёніі». А жонцы Олі, якая дапамагала ў працы, уручылі букет кветак. Настаяцель а. М. Страпко паблагаславіў яго і ўсе разам адсьпявалі «Многая лета», а прысутныя падтрымалі гэта доўгімі воплескамі.

Гэта сапраўды была добрая ідэя камітэту, бо Андрэй і Оля Стрэчыні на гэта заслужылі, і нам заўсёды трэба ўшаноўваць такіх ахвярных працаўнікоў, што ўлажылі шмат працы ў нашых асяродках на эміграцыі, а гэтым самым для нашае Бацькаўшчыны — Беларусі.

**К.П.**

Руплівага, доўгадовага і актыўнага ўдзельніка ўва усіх галінах беларускага жыцьця ў Канадзе

**ВАЛЕНТЫНА НАВІЦКАГА**

вітаем зь 75-мі ўгодкамі жыцьця, якія споўніліся ў лістападзе сёлета.

*Камітэт Сувязі Беларускіх Вэтэранаў*
*Рэдакцыі «Зважай» і «Беларуса»*
*Наглядная Рада ЗБК*

*З жыцьця ў Саўт-Рывэры*

## СУБОТНЯЯ ШКОЛКА

8 кастрычніка быў адслужаны малебен для дзяцей суботняе школкі пры царкве сьв. Еўфрасіньні Полацкай, якую вядзе а. Мячыслаў Брынкевіч. Школку наведвае 15 дзяцей.

## ЮБІЛЕЙ ГОРАДУ

У нядзелю 22 кастрычніка жыхары Саўт-Рывэру сьвяткавалі 275-я ўгодкі заснаваньня свайго гораду. Быў вялікі парад, у якім узяла ўдзел і беларуская група на чале з а. Мячыславам. Належыцца шчырая падзяка мастаку Алегу Махнюку за прыгожа зроблены плякат зь імём царквы сьв. Еўфрасіньні. Праз цэлы тыдзень мясцовае тэлебачаньне паказвала гэты парад.

## ПАСЬВЯЧЭНЬНЕ ЦАРКОЎНАГА ДОМУ



*Царкоўны дом парафіі Сьв. Еўфрасіньні Полацкай ў Саўт-Рывэры.*

У саўтрывэрскай парафіі імя сьв. Еўфрасіньні Полацкай адбылася даўно задуманая, але цяпер толькі ўжыцьцёўленая пабудова царкоўнага дому для сьвятара. 12 лістапада адбылося яго пасьвячэньне.

З блаславенства Экзарха Канстантынопальскага Экзархату Архіяпіскапа Якаваса Ўладыка Афінагорас у суслужэньні духавенства — а. настаяцеля Мячыслава Брынкевіча, а. пратапр. Сьвятаслава Каўша, а. Дзімітра Башка — настаяцеля царквы сьв. Юрыя ў Чыкаго, а. пратапр. Сяргея Кухарскага настаяцеля Пятрапаўлаўскай царквы ў Саўт-Рывэры — адслужыў Сьв. Літургію, а пасьля пасьвяціў дом. Пропаведзь Уладыкі Афінагораса сваёю зьмястоўнасьцю ўзрушыла ўсіх вернікаў. Уладыка ўручыў усім сябрам парафіяльнага камітэту памятныя іконы. Прыслужнікамі былі: Алекс Наумчык і Алекс Арцюшэнка. Прыгожа пяяў хор пад кіраўніцтвам рэгенткі Ірыны Яўтуховіч. Пасьля Божых службаў, у залі Грамадзкага Цэнтру адбыўся банкет. Старшыня парафіяльнага камітэту Ўсевалад Цупрык прывітаў удзельнікаў банкету і прадставіў прысутных гасьцей. Як у царкве, так і ў залі Ўладыка ўзрушана вітаў усіх і пажадаў далейшага посьпеху ў жыцьці парафіі. Акрамя Ўладыкі, прамаўлялі а. Мячыслаў, а. Д. Башко і а. пратапр. С. Коўш.

Належыцца шчырая падзяка сп-ні Соні Арцюшэнка і жанчынам, якія прыгатавалі багаты стол. Беларускія мэлёдыі ў выкананьні кампазытара Зьмітра Яўтуховіча гучалі падчас банкету, за што ён атрымаў падзяку ад Уладыкі.

**М. Сенька**

## БЕЛАРУСКАЯ МОВА Ў НОВАЙ ШКОЛЕ Ў НЬЮ-ЁРКУ

Газэта «Нью-Ёрк Таймс» (7.XI.95) зьмясціла цікавы рэпартаж аб новай сярэдняй школе для новапрыбылых імігрантаў у частцы Нью-Ёрку — Куінсе. У гэтай школе, якая пачала дзейнічаць толькі ад верасьня месяца сёлета, навучаньне вядзецца ня толькі паангельску, але і на роднай мове вучняў. Цяпер у школе сярод трыццаці моваў, якімі карыстаюцца настаўнікі, ёсьць і беларуская. Яна выкарыстоўваецца ў дачыненьні да трох вучняў. Зь іншых славянскіх моваў у школе ўжываюцца: баўгарская (3 вучні), украінская (1 вучань), польская (4 вучні). Найбольш вучняў у школе гішпанскамоўных (216), кітайскамоўных (26), бэнгальскамоўных (25), карэйскамоўных (12) і інш.

## ПАДЗЯКА

Дзякуем за газэтныя выразкі і іншыя прэсавыя матар'ялы, якія нам прыслалі спадарства: Б. Данілюк, А. Сільвановіч, Я. Арцюх, Л. Яцкевіч, Л. Літаровіч, А. Баханчык, Э. Рыжы, Я. Сурвілла, Ю. Кіпель.

# ПАДАРОЖЖА Ў БЕЛАРУСЬ 1995

*(Працяг; пачатак у № 427)*

Раўнінная дарога — з прыпынкам на ягады, перакур ды іншыя патрэбы — прывяла нас ад Слуцку да Турава. відны былі ўжо чырвона-зялёныя пасмы старога сьцягу.

Над дахам выканкамаўскага будын-



*Турысты з Амэрыкі зь мясцовымі дзяцьмі ля помніка Кірылы Тураўскага. Фота Анатоля Кляшчука.*

Гасьцінныя тураўцы сустрэлі крыху прыпозьненых гасьцей перад горадам, на дарозе сярод квяцістых палёў. Тут адбыўся цэлы разгорнуты рытуал спатканьня — ізноў з караваем, а таксама зь песьнямі ансамблю «Ярок» і танцамі ансамблю «Прыпяць». Наш неўгамонны Мікола Котаў кіраваў быў раней адным з гэтых ансамбляў на працягу 20 гадоў, і для яго было падвойнай прыемнасьцяй завітаць у гэты родны для яго і цікавы для ўсіх нас цудоўны куточак беларускай зямлі. Радасьць сваю Мікола выліў у прачулых словах звароту да сваіх колішніх харыстаў і танцаўнікоў. Мастацтва і мастакі — гэта тая самая моцная і самая трывалая скрэпа, што трымае краіну разам.

Тураў — адна з найбольш багатых даўніной і найменш прыкметных у сучаснасьці гістарычных мясьцін Беларусі. Колішні горад, цэнтар княства, а сёньняшні сьціплы пасёлак з трыма з палавінаю тысячамі жыхароў, ляжыць у маляўнічым навакольлі. Люстраная Прыпяць распасьцерлася тут шырока і ўпэўнена. Пяшчаны груд, ахоплены з аднаго боку ракой, а з другога еўным адгаліnаваньнем, чакае цярпліва на археолягаў і гісторыкаў, якія ўзьнялі-б з глыбіняў мінуўшчыны гістарычнае багацьце Тураўшчыны ды паставілі яго на службу сучасьнікам. Старшыня мясцовага выканкаму Васіль Каралец, добра адукаваны і сымпатычны малады чалавек, выдатна разумее культурны патэнцыял свайго гораду-пасёлку, але што-ж калі фінансавыя нястачы заядаюць усякую ініцыятыву, скіраваную на адраджэньне краю. Дый палітычна часы насталі ня надта спрыяльныя.

Над уваходам у рэстаран, у якім мы падсілкоўваліся, вісеў яшчэ пабляклы ад сонца, але вольны ад лукашэнкаўцаў, бел-чырвона-белы сьцяжок. Хоць над будынкам выканкаму, ледзь заўважныя ў рэзкіх сонцапромнях, ку ўлякавалася бусьлянка. Наслухаўшыся і начытаўшыся пра дзікунства чалавека на Беларусі ў дачыненьні ды прыроды, я пацікавіўся стаўленьнем людзей да буслоў — ці не страляюць іх. О, не! Застаецца ў сіле традыцыйнае шанаваньне буслоў. Калі на коміне тураўскага выканкаму зьявілася бусьлянка, закрыўшу выхад дыму, майстры пакінулі гняздо над комінам, узьняўшы адно яго на штангах, каб даць праход дыму. Рэдкая беларуская гасьцінnасьць у дачыненьні да фаўны!

Часу на наведаньне Турава заставалася ня шмат, давялося абмяжоўвацца. Але не за кошт аднага ўнікальнага аб'екту. Быўшы ў Тураве, нельга не пакланіцца сьв. Кірылу Тураўскаму, помнік якому, зь немалымі перашкодамі і цяжкасьцямі, пабудавалі ў 1993 годзе агульнымі намаганьнямі і талентам двух натхнёных сыноў Тураўшчыны: студэнта-скульптара Міхася Інькова і архітэктара Міколы Лук'янчыка. Прапаведнік епіскап Кірыла стаіць на ўвесь свой магутны рост, а за плячыма ў яго яшчэ больш за чалавека крыж, што сымбалізуе сабой веліч хрысьціянскае навукі, у рамках якое зьмяшчаецца ўсё чалавечае жыцьцё. Гледзячы на манумэнтальную постаць сьвятога, нельга не адчуць балючае іроніі, што тым часам як на эміграцыі ёсьць тры беларускія праваслаўныя цэрквы, названыя імём сьв. Кірылы Тураўскага (дзьве ў Нью-Ёрку і адна ў Таронта), на Беларусі няма ніводнае, якая насіла-б імя вялікага хрысьціяніна і асьветніка, сына свае зямлі.

Тут на замкавай гары, дзе што ні цагліна ці асколак каменя, то глыбіня стагодзьдзяў, ля падножжа велічнага помніка, можна было пачуць шмат цікавае інфармацыі ад дырэктара Тураўскага краязнаўчага музэю сп-ні Валянціны Марынкінай. Тут-жа працягвалася далей і частаваньне гасьцей песенна-танцавальным мастацтвам. У промнях цёплага сонца, у духмяным водыры чыстага прыпяцкага паветра. Гасьцям прыемна было глядзець на стройных дынамічных танцаўнікоў ансамблю «Прыпяць», а ім і цэлай грамадзе дзетвары, напэўна, ня менш цікава было пазіраць на заакіянскіх суродзічаў, што раздавалі цукеркі, жуйкі, алавікі і іншыя сувэніры ды бязупынна шчоўкалі фотаапаратамі.

Як і ў Слуцку, давялося мне выказаць у колькіх словах падзяку за гасьцінnасьць, захапленьне прыгажосьцяй людзей і краю, радасьць, што беларусы з цэлага сьвету могуць нарэшце свабодна прыяжджаць на Бацькаўшчыну, чэрпаць духовую моц у лучнасьці з родным народам. Неспадзявана даведаўся ад мясцовай настаўніцы, што маё выступленьне было «цэлай лекцыяй у абарону беларускае мовы» ды што яна, настаўніца, будзе цяпер яшчэ больш працаваць на карысьць адраджэньня роднага слова. Падумалася ў гэты мамэнт пра тых, што засталіся ў Амэрыцы, не пажадаўшы ехаць на Беларусь у знак пратэсту на неспрыяльныя беларускаму адраджэньню палітычныя падзеі апошняга часу. А якраз цяпер такія падарожжы найбольш і патрэбныя!

**Янка Запруднік**

*(Працяг у наступным нумары)*

---

*З жыцьця ў Гайленд-Парку, Н.-Дж.*

## АДЗНАЧЭНЬНЕ СЛУЦКІХ УГОДКАЎ

Аддзел Задзіночаньня Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў у Нью-Джэрзі (старшыня сп. Міхась Тулейка) наладзіў 26 лістапада адзначэньне 75-х угодкаў Слуцкага паўстаньня. Напярэдадні сьвяткаваньня вэтэраны (спсп. Янка Азарка, Алег Махнюк і інш.) удэкаравалі бел-чырвона-белымі сьцяжкамі магілкі беларускіх патрыётаў на Беларускім могільніку ў Іст-Брансьвіку. У нядзелю 26-га ў царкве Жыровіцкае Божае Маці а. Васіль Андрэюк адслужыў паніхіду па гераічных случчаках. У падцаркоўнай залі адбылася памінальная ўрачыстасьць, на якую прыбылі і суродзічы з аддаленых ваколіцаў, а таксама маладыя людзі зь Беларусі, што праходзяць навуку ў амэрыканскіх школах.

Адкрыў урачысты сход уступным словам сп. Тулейка. Пасьля малітвы, салюту амэрыканскаму сьцягу і супольнага адсьпяваньня патрыятычнае песьні «Беларусь наша Маці-Краіна» сп. Тулейка прачытаў з газэты «Бацькаўшчына», напісаны шмат гадоў таму, кароткі красамоўны і актуальны сёньня артыкул пра традыцыю адзначаньня слуцкіх угодкаў. Былі зачытаныя прывітаньні ад Беларускага Народнага Фронту, Згуртаваньня Беларусаў Сьвету «Бацькаўшчына» ды ад кліўлендзкага аддзелу ЗБАВ (старшыня Кастусь Калоша).

Зьмястоўны рэфэрат на тэму дня прачытаў сп. Віталь Зайка, навуковец зь Беларусі, які знаходзіцца ў Нью-Ёрку ў парадку беларуска-амэрыканскага культурнага абмену. Змаганьне случчакоў за волю і незалежнасьць Бацькаўшчыны, адзначыў дакладчык, працягваецца, але сёньня яно вядзецца іншымі сродкамі, чым тыя, якімі змушаныя былі карыстацца случчакі.

Урачыстасьць закончылася адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну і жалобнага маршу «Сьпі пад курганам героях».

**Я.З.**

---

*З жыцьця ў Чыкага*

## НА АБМЯРКОЎВАНЬНІ ТЭЛЕВІЗІЙНАЯ ПРАГРАМЫ

Аддзел этнічных справаў пры губэрнатарскім кіраўніцтве наладзіў 24 кастрычніка сёлета супольна з тэлевізійнай станцыяй WBBM-TV (2-гі канал) у гістарычнай Першай Студыі сустрэчу этнічных кіраўнікоў, каб абмеркаваць пытаньне інфармаваньня 2-ім каналам пра жыцьцё этнічных групаў. На сустрэчу прыбыло больш за 50 кіраўнікоў ад розных нацыянальнасьцяў. Ад імя беларускай грамады на сустрэчы гаварыла пра беларускія справы сп-ня Вера Рамук. Урыўкі з таго, што гаварылася на сустрэчы, будуць пэрыядычна перадавацца на 2-ім канале.

---

## ЭНЦЫКЛЯПЭДЫЯ ГОР. НЬЮ-ЁРКУ

*(Заканчэньне з 2-й ст.)*

БІНіМу як выдаўца беларускае дасьледніцкае і мастацкае літаратуры.

У артыкуле пра беларусаў гораду Нью-Ёрку Вітаўт Кіпель падкрасьляе, што з паўмільёну беларусаў, якія настала аселі ў Амэрыцы, каля 75 тысячаў пасяліліся ў горадзе й ваколіцах Нью-Ёрку.

Пра аўтара беларусаведнае інфармацыі адзначана: Вітаўт Кіпель нарадзіўся на Беларусі ў горадзе Менску. Скончыў геалягічны факультэт Лювэнскага Ўнівэрсытэту (Бэльгія) ды бібліятэчны факультэт Ратгерскага Ўнівэрсытэту (ЗША). Панад 25 гадоў ён працаваў на розных пасадах, улучна на становішчы дзейнага загадчыка Навуковага Аддзелу Ньюёркскае Публічнае Бібліятэкі.

У энцыкляпэдыі гораду Нью-Ёрку разгледжаныя 68 нацыянальных групаў.

***The Encyclopedia of New York City.*** ***Edited by Kenneth T. Jackson. New York-New Haven-London: Yale University Press, The New York Historical Society, 1995. 1350 p. $60.00***

---

## РОСТ ЗАХВОРВАНЬНЯЎ У ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ ЗОНЕ

Прэсавая служба Асошыэйтэд Прэс падала з Жэнэвы паведамленьне агенцтва аховы здароўя ААН: выпадкі захворваньня дзяцей на рака шчытавіднай залозы пабольшыліся ў сто разоў у зоне чарнобыльскае радыяцыі. Рак шчытавіднае залозы разглядаецца, як найхутчэйшы паказьнік уплыву радыяцыі на стан здароўя.

У паведамленьні згадваецца заява др. Аляксея Акінава, дырэктара Беларускага інстытуту мэдычнай тэхналёгіі, які сказаў, што толькі ў Беларусі цяпер больш за 400 хворых на рака шчытавідкі.

*(Паводле The Ottawa Citizen, Nov. 21, 1995)*

# АПОВЯД ПРА БЕЛАРУСКУЮ ШКОЛУ

*ЯН МАКСІМЮК,* **Беларуская Гімназія імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне, 1945-1950**, Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва, Нью-Ёрк–Беласток, 1994, с. 196.

«Без нацыянальнай школы няма нацыянальнай сьвядомасьці. Беларусы, як ніводная іншая нацыя ў Эўропе, спазналі гэтую праўду асабліва балюча. Сёньня, пры наяўнасьці вонкавых прыкметаў самастойнага нацыянальнага жыцьця, беларусы ўсё яшчэ хістаюцца над прорвай у нацыянальную пагібель» — гэтак пачынаецца Максімюкова кніжка. Калі прыняць вышэй сказанае за аўтарскі тэзіс, пад які кніжка пісалася, дык адразу трэба заўважыць, што будзе мэтазгодна разважыць гэты тэзіс сама менш у двух аспэктах. Першы — гэта значэньне школы ў дадзеным канкрэтным выпадку, яе ўплыў на сьвядомасьць маладых беларусаў, якія пасьля вайны падаліся ў эміграцыю. Другі аспэкт датычыць гістарычнага дасьведчаньня з адукацыйнай сыстэмай нацыі ў цэлым. Вышэй прыведзеныя словы, напісаныя ў 1993 г., калі адраджэньне беларускага жыцьця ў Беларусі выглядала больш чым аптымістычна, як быццам прадвяшчаюць тое «хістаньне над прорвай у нацыянальную пагібель», што маем сёньня, у палове 1995 году.

Пацьвярджаючы прыярытэтнасьць школы ў фармаваньні нацыянальнай сьвядомасьці, трэба таксама мець на ўвазе базу, якая абумоўлівае самую магчымасьць існаваньня школы. Такой базай зьяўляецца грамадзтва кансалідаванае звычаямі й традыцыямі, якія схіляюць адзінку да ўдзельніцтва ў жыцьці ў грамадзе й складаюцца на народную культуру незалежна ад ступені нацыянальнай сьвядомасьці гэтых удзельнікаў. «Беларусам наагул не шанцавала на настаўнікаў і школы. Калі ўсё-ж шанцавала, вынікаў ня трэба было доўга чакаць» — сьцьвярджае далей Максімюк. На доказ гэтых слоў дастаткова прыгадаць нашаніўскі пэрыяд, беларусізацыю ў БССР у 20-я гады, ці фэнамэн Сялянска-Работніцкай Грамады ў Заходняй Беларусі.

Неглядзячы на біялягічнае зьнішчэньне беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі ў БССР і жорсткі праслед яе ў даваеннай Польшчы ды разбурэньне ў абодвух выпадках беларускай адукацыйнай сыстэмы ў 30-я гады, дэнацыяналізатарам не ўдалося дасягнуць задуманай мэты. Нават у жахлівых умовах нямецкай акупацыі беларускае школьніцтва й нацыянальны рух адрадзіліся быццам фэнікс з папялішча, выкарыстоўваючы абыякавасьць (у сэнсе несупраціўленьня) акупацыйных уладаў.

Першыя два разьдзелы ў кніжцы Максімюка непасрэдна школы не датычаць. Яны асьвятляюць агульныя падзеі ў гісторыі беларускай пасьляваеннай эміграцыі, такім чынам падрыхтоўваючы «грунт» пад асноўную тэму — Гімназію імя Янкі Купалы. «Уставіўшы» беларускіх выхадцаў у 10-мільённае скупішча перамяшчэнцаў у Нямеччыне ў 1945 годзе, аўтар дае агульную характарыстыку беларускай грамады, якая ў часы вайны ўзьнікла за кошт чатырох асноўных групаў наплыву: палонных з польскай арміі 1939 г., палонных з савецкай арміі, работнікаў прымусовай працы («остаўцаў») і ўцекачоў зь Беларусі 1944 году. Зразумела, што аўтар ня мог абмінуць увагай і праблемы рэпатрыяцыі, якая ў адносінах да перамяшчэнцаў з абшараў Савецкага Саюзу (у тым і да беларусаў) прыняла даволі драматычную форму з увагі на свой прымусовы характар. Максімюк падае прыклады злачыннага супрацоўніцтва заходніх альянтаў з Саветамі ў справе прымусовай рэпатрыяцыі, цытуючы заходніх аўтараў.

Кніжка адзначае заслугі міжнароднай арганізацыі УНРРА (*United Nations Relief and Rehabilitation Administration*) для ахвяраў вайны й перамешчаных асобаў. УНРРА абаснавала лягеры перамешчаных асобаў (так званыя лягеры ДП — ад анг. *displaced persons:* перамешчаныя асобы), наогул на нацыянальных прынцыпах, забясьпечвала асноўныя патрэбы выхадцаў, выдала выхадцам адпаведныя дакуманты й пасьведчаньні асобы, вяла нагляд над лягерным жыцьцём абапертым на самакіраваньні, спрыяла ўзьнікаьню лягерных школаў. Належная ўвага адведзена таксама другой міжнароднай арганізацыі — ІРО *(International Refugee Organization)* — якая у палове 1947 г. пераняла ад УНРРА апеку над лягерамі ДП і арганізавала эміграцыю перамяшчэнцаў з Заходняй Нямеччыны ў іншыя краіны.

«Агульная» частка Максімюковай кніжкі заканчваецца кароткім пералікам-аглядам каля двух дзесяткаў беларускіх лягероў ДП ў Заходняй Нямеччыне, у якім асаблівы націск зроблены на беларускія асьветныя ўстановы. Варта тут адцеміць, што беларусы заснавалі, акрамя Гімназіі Янкі Купалы, яшчэ Гімназію імя Максіма Багдановіча (лягер Ватэнштэт, ангельская зона) ды дзьве чатырохклясовыя (няпоўныя) гімназіі ў Остэргофэне й Гібэльштаце (амэрыканская зона), ня лічачы сеткі беларускіх дзіцячых садкоў і пачатковых школаў. Два пачатковыя разьдзелы, дзякуючы стараннаму адбору матэрыялу й яснасьці прадстаўленай карціны, даюць знакамітыя ўводзіны ў разьлеглую й складаную праблему беларуская пасьляваеннай эміграцыі.

Трэці разьдзел пераносіць нас у горад Рэгенсбург ва Ўсходняй Баварыі, які стаўся цэнтрам гуртаваньня беларускіх выхадцаў у амэрыканскай акупацыйнай зоне Нямеччыны ў 1945 годзе. Тут утварыўся Беларускі Нацыянальны Камітэт, які абаснаваў беларускі лягер перамешчаных асобаў у прыгарадзе Гангофэр ды таксама гімназію, якая ў 1947 г. атрымала імя Янкі Купалы.

Кніжка, як здаецца, справядліва аддае належнае дырэктару гімназіі, д-ру Аляксандру Орсе, які ўзяўся за нялёгкую задачу наладзіць нармальны адукацыйны працэс сярэдняй школы ў ненармальных абставінах. Дырэктар А. Орса, дасьведчаны й аддадзены беларускі пэдагог, гуртуе вакол гімназіі найлепшыя пэдагагічныя сілы, пасьпяхова адольвае клопаты з укамплектаваньнем школы вучнямі ды «дацягвае» ўзровень школы да высокіх вымогаў нямецкай адукацыйнай сыстэмы. Кніжка распавядае аб усім дэталёва, хоць і нешматслоўна. Знойдзем у ёй таксама кароткія індывідуальныя характарыстыкі настаўнікаў, якія аўтар, трэба меркаваць, пачарпнуў з удзячнай памяці іхніх вучняў падчас свайго пабыту ў ЗША. Максімюк таксама сумленна рэгіструе ўсе захаваныя ў памяці факты са школьнага й пазашкольнага жыцьця ды скаўцкай дзейнасьці. Звыш таго, аўтар знаходзіць месца для характарыстыкі палітычнага й рэлігійнага канфлікту ў беларускай грамадзе ды ейнага ўплыву на дзейнасьць гімназіі.

Трэба адзначыць, што праца Максімюка дае першы ў нашай гістарыяграфіі аб'ектывізаваны й сур'ёзны накід праблемы палітычна-рэлігійнага падзелу (аўтар называе гэта «дуалізмам») сярод беларускай эміграцыі. Аўтар прадстаўляе акалічнасьці ўзьнікненьня палітычнага падзелу БНРаўцы-БЦРаўцы («крывічы-зарубежнікі») паміж прыхільнікамі Міколы Абрамчыка й Радаслава Астроўскага, а таксама закалот вакол канфэсійнага пытаньня й праблемы ўтварэньня Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы на эміграцыі. Гэты падвойны антаганізм спрычыніўся таксама да «расколу» Беларускай Гімназіі імя Янкі Купалы на дзьве школьныя ўстановы летам 1948 году.

Празь лягеры ДП у Міхельсдорфе, Віндышбэргердорфе й Розэнгайме разам з аўтарам і гімназіяй вандруем ажно да чэрвеня 1950 г., калі школа была разьвязаная ў сувязі з выездам вучняў і настаўнікаў зь Нямеччыны. Фармальны вынік гімназіі — 44 абітурыенты з атэстатамі сталасьці — можа камусьці паказацца ня надта ўражальным. У абсягу беларускай эміграцыі, аднак, Гімназія імя Янкі Купалы адыграла калясальную ролю, як вынікае з біяграфічных даведак аб жыцьці настаўнікаў і, перш за ўсё, вучняў, зьмешчаных у кніжцы як дадатак да галоўнага аповяду. Вучні гімназіі, як матурыста, так і тыя зь незакончанай сярэдняй адукацыяй, пасьпяхова працягвалі й здабывалі вышэйшую адукацыю ў розных навучальных установах сьвету, а потым дасягалі высокага грамадзкага статусу. Яны ставаліся выказьнікамі беларускай незалежніцкай ідэі на эміграцыі й папулярызатарамі імя Беларусі ў сьвеце. Яны, урэшце, наладжвалі арганізацыйнае эміграцкае жыцьцё беларусаў, запыняючы працэс дэнацыяналізацыі беларускай эміграцкай масы, аб чым грунтоўна расказана ў кніжцы Вітаўта Кіпеля «Беларусы ў ЗША».

Прадстаўлены ў працы Я. Максімюка фактаграфічны матэрыял дае яму поўнае права назваць Гімназію імя Янкі Купалы «кузьняй беларускага духу і ідэалам беларускай школы».

Варта падкрэсьліць яшчэ адзін аспэкт кніжкі. Яна — адна зь першых у нас сур'ёзных і высокаякасных працаў, якая выходзіць як *antidotum* супроць груваштчанай дзесяцігодзьдзямі хлусьні савецкай прапаганды наконт эміграцыі, супраць татальнага паклёпу, накіраванага на дыскрэдытаваньне беларускай незалежніцкай ідэі.

Уважлівы чытач не застанецца абыякавы й да чыста літаратурных і фармальных вартасьцяў кніжкі: нештампаванай мовы й камунікатыўнага стылю; надзвычайна згушчанага, але прытым яснага пераказу фактаў; бесстароннасьці фармуляваных ацэнак і высноваў, якія ставяць кніжку ў ранг гістарычных досьледаў. У суме — кніжка Я. Максімюка зьяўляецца каштоўным укладам у вывучэньне гісторыі беларускай эміграцыі.

*Варшава, травень 1995.*

**Янка Жамойцін**

# ВЫДАТНЫ ФІЛЬМ ПРА ЧАРНОБЫЛЬ

Ад 7 да 11 лістапада канадыйскае нацыянальнае тэлебачаньне Сі-Бі-Сі перадало чатыры разы фільм «Ігар, дзіця Чарнобыля». Асноўная частка фільму, у якой расказваецца пра маленькага, пакалечанага Чарнобылем хлопчыка зь Беларусі, зробленая брытанскім тэлебачаньнем Бі-Бі-Сі падчас побыту хлопчыка ў Англіі. Другая частка паказвае, як канадыйцы памагаюць ахвярам Чарнобыля ў Беларусі, а менавіта расказвае аб летнім адпачынку ў Канадзе групы беларускіх сіротаў, якіх ад двух гадоў прывозіць Канадыйскі Фонд Дапамогі Ахвярам Чарнобыля ў Беларусі ў рамках сваёй дзіцячай праграмы.

Фільм, які ўпяршыню быў перададзены на Сі-Бі-Сі 7 лістапада, да такой ступені рашчуліў гледачоў, што, паводле яго прад'юсэркі, атрымаў найбольшы водгук, які Сі-Бі-Сі калі-колечы мела на перадачу ў сэрыі Witness, у рамках якое ён перадаваўся. Людзі ня толькі выказалі свае пачуцьці — бальшыня зь іх плакалі, гледзячы, як дзіцянё бяз ножак і толькі з аднэй ручкай давала сабе рады ў чужой краіне, — але й цікаваліся таксама, як можна памагчы нашаму Фонду, які ўжо ад пяці гадоў прывозіць у Канаду на адпачынак і аздараўленьне беларускіх дзетак, што пацярпелі ад чарнобыльскай катастрофы.

У гэтым годзе Канадыйскі Фонд Дапамогі Ахвярам Чарнобыля ў Беларусі прывёз у Канаду 410 дзяцей зь Беларусі. Сем'і, якія бяруць да сябе дзетак, на працягу цэлага году бяруць удзел у зборы грошай на білеты, візы, страхоўку, а таксама на пакрыцьцё коштаў, зьвязаных з прыездам настаўнікаў-перакладчыкаў, што суправаджаюць дзяцей і якіх сёлета было 26.

Год таму Фонд стварыў спэцыяльную праграму для дзяцей, якія знаходзяцца ў дзіцячых дамох у Беларусі. У гэтым годзе прыехала 16 сіротаў. Іх якраз і паказвала Сі-Бі-Сі у канадыйскай частцы фільму «Ігар, дзіця Чарнобыля».

Канадыйскі Фонд Дапамогі Ахвярам Чарнобыля ў Беларусі быў створаны ў 1989 годзе атаўскімі беларусамі.

**І. Сурвілла**

## ЖАНЭТ ШЧЭЦЬКА

**(5.IV.1917 – 22.X.1995)**



У нядзелю 22 кастрычніка, пасьля доўгаў хваробы, памерла мая спадарожніца жыцьця Жанэт. Хаваў а. ігумен Грэгоры 25 кастрычніка на могілках Жыровіцкае Божае Маці ў Іст-Брансьвіку, Н.-Дж.

Радзілася ў Лювэне, Бэльгія. Дзявочае прозьвішча Дэлеп'ер. Вянчаў нас а. Аўген Смаршчок у Лювэне 23.VI.1955 году. У Амэрыку прыехалі ў 1956 годзе. Жылі ад 1958 г. у Нью-Ёрку.

Плач і боль засталіся ў мяне пасьля ейнага адыходу. Малю міласьцівага Бога памагчы майму гору. А для ейнай душы прашу Усемагутнага даравацъ ёй усе грахі і ўсяліць паміж праведнікамі. Хай ёй будзе лёгкай амэрыканская зямля. Вечная памяць.

**Васіль Шчэцька**

### Абвестка

Сёлета летам Беларуска-Амэрыканскі Цэнтр ладзіў паездку па паўднёва-заходняй Беларусі. Бывшы ў Нясьвіжы, падарожнікі наведалі старынны каталіцкі фарны касьцёл імя Божага Цела. Айцец др. Гэнрык Акалатовіч, паказаўшы нам гэты старажытны і вельмі прыгожы касьцёл, зьвярнуўся да нас, каб дапамаглі ім купіць кампютар і прынтар. Сказаў, што ў парафіі знаходзіцца звыш 600 дзяцей, і іхнія бацькі патрабуюць, каб іх дзеці вывучалі Божую навуку на беларускай мове, бо цяпер усё друкуецца на польскай мове.

Беларускі Грамадзкі Цэнтр згадзіўся ўзяць на сябе адказнасьць, каб сабраць грошы і выслаць ім так неабходныя рэчы для беларускага адраджэньня паміж каталікоў.

Усіх людзей добрай волі просім высылаць чэкі на:

**Belarusian-American Center**
**c/o George Naumczyk**
**284 Whitehead Ave.**
**South River, N.J. 08882**

### «БЕЛАРУСКАЯ АМЭРЫКА» ЛЕАНІДА ПРАНЧАКА

Папулярную і багата ілюстраваную кніжку пра беларусаў Амэрыкі (Менск, 1994, 416 с.) можна набыць у сп-ні Леанілы Каліноўскай-Татум, 34 Richter Street, Milltown, N.J. 08850. Тэл.: (908) 246-3216 (пасьля 6-й вечара). Цана кнігі: 50 дал. (зь перасылкай).

**Ахвяраваньні на выдавецкі фонд Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва**

| | |
|---|---|
| Нарушэвіч С. | ам. д. 200 |
| Кіпель В. і З. | 200 |
| Запруднік Я. і Н. | 100 |
| Арцюх Я. і І. | 100 |
| Заморская В. | 100 |
| Рамана А. | 100 |
| Жук-Грышкевіч Р. | 50 |
| Міцкевіч А. (БАЗА, Н.-Ё.) | 50 |
| Пеляса У. | 40 |
| Кажаневіч Ф. | 30 |
| Швэдзюк М. | 20 |
| Машанскі У. | 10 |

**Ахвяраваньні на мэмарыяльную дошку ў памяць ахвяраў камуністычнага тэрору ў Беларусі**

| | |
|---|---|
| Міхась Наўмовіч (другі раз) | кан. д. 51,66 |
| Мікола Латушкін | 132,24 |
| Ванда і Міхась Махнач | 135,60 |
| Язэп Арцюх | 66,43 |
| Івонка й Янка Сурвілла | 100,00 |
| Усяго | кан. д. 485,93 |

Арганізацыйны Камітэт «Курапаты» выказвае шчырую падзяку ўсім ахвярадаўцам.

**Ахвяраваньні на дзіцячую зубную клініку ў Менску**

| | |
|---|---|
| Т. Стагановіч-Кольба (у памяць Мамы). | ам. д. 300 |
| др. А. Занковіч | 200 |
| др. В. Рагуля | 750 |

**КААРДЫНАЦЫЙНЫ КАМІТЭТ БЕЛАРУСАЎ КАНАДЫ**
**BELARUSAN CANADIAN COORDINATING COMMITTEE**
*54 Mary Street, Barrie, Ontario, Canada, L4N 1T1. Tel.: (705)725-8654*

## ПАМЯЦІ АХВЯРАЎ КАМУНІСТЫЧНАГА ТЭРОРУ Ў БЕЛАРУСІ

*«У нас ёсьць нямала велічных помнікаў ахвярам нямецкага фашызму... Але нішто яшчэ ў нас не напамінае пакаленьням аб ахвярах сталіншчыны. Тое няправільна й недаравальна! Мы павінны памятаць аб іх — не героях, а бязьвінных ахвярах тырана — спрацаваных рабочых, галодных калгасьніках, першых народных інтэлігентах, мужчынах і жанчынах, якія з куляю ў патыліцы клаліся ў самыя-ж выкапаныя ямы, вымаўляючы не праклён, не пратэст, а адзінае марнае слова – 'Завошта?'.* **— Васіль Быкаў.**

Дарагія Суродзічы!

Год таму мы з вамі плянавалі ўзьнесьці мэмарыяльную дошку памяці ахвяраў камуністычнага тэрору ў Беларусі. Дзякуючы вашаму зразуменьню й падтрымцы і дзякуючы Боскай дапамозе, нашая задума амаль выкананая. Калі ўсё будзе памысна, урачыстасьці асьвячэньня й дэдыкацыі памятнай дошкі адбудуцца ў першую суботу чэрвеня 1996 году. Пачатак а 10-й гадзіне раніцы.

Асабліва ў гэтым годзе й тыдзень ня мінае, каб у прэсе і на тэлебачаньні не напаміналі сьвету аб гітлераўскіх злачынствах, каб не дэкляравалі, што ніколі іх, бязьвінных ахвяраў, не забудуць. І сьвет павінен памятаць, каб такія злачынствы не паўтараліся...

Ніхто не напамінае сьвету аб сталінскіх, і ня толькі сталінскіх, а камуністычных злачынствах у Беларусі. Сьвет аб іх маўчыць... Быццамбы ніхто й ня дбае, нікому за іх — беларускіх дзеячоў, братоў, сыноў, бацькоў і матак — загінуўшых на Калыме, у Салаўках, расстраляных у Курапатах — сэрца не баліць...

Дарагія Суродзічы, адложным час на першую суботу чэрвеня і прыедзем у Мідлянд, у прошчу паўночна-амэрыканскіх пакутнікаў, аддаць пашану памяці мільёнам пакутнікаў Беларускага Народу.

Аб праграме ўрачыстасьцяў будзем паведамляць у наступным годзе.

Жадаем вам Вясёлых Каляд і Шчасьлівага Новага Году!

Жыве Беларусь!

За Арганізацыйны Камітэт

**Раіса Жук-Грышкевіч,**
**Старшыня**

Бэры, Канада, лістапад 1995 году

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

*Прыслалі беспасярэдня ў Рэдакцыю:*

| | |
|---|---|
| У. Пелеса | ам. д. 40 |
| В. і Д. Мельяновіч | 33 |
| Ю. Найдзюк зь сям'ёй | 30 |

*Ад нашага прадстаўніка ў Нью-Джэрзі сп. С. Трыгубовіча:*

| | |
|---|---|
| Б. Рагуля (у памяць Ю. Сяньkoўскага) | 213 |
| Н. Сьнежка | 50 |
| А. Хрэноўскі | 50 |
| М. Грэбень | 50 |
| А. Моніd | 50 |
| П. Алексы | 40 |
| Е. Занковіч | 30 |
| Л. Каравайчык | 30 |

## АЛЬБОМ ЧАРНОБЫЛЬСКІХ ЗДЫМКАЎ

A DISASTROUS EFFECT. CHERNOBYL. Edited by John L. Bundy. Printed by Reese's Print Shop, Lock Haven, PA, [1955]. 48 p.

У ўступным слове да альбому ў бел-чырвона-белай вокладцы рэдактар Джон Бунды, сьвятар Царквы Братоў у Хрысьце (фатаграфія якога з жонкай Мэры зьмешчаная на пачатку кнігі), кажа, што яны з жонкай былі ў Беларусі і падзяляюць гора беларусаў, спрычыненае чарнобыльскай катастрофай. Пра выніkі Чарнобыля гаворыцца ў выступленьні беларускага журналіста Васіля Якавенкі, старшыні Сацыяльна-экалягічнага саюзу «Чарнобыль», на адной зь міжнародных канфэрэнцыяў у Менску. Прамова Якавенкі зьмешчаная ў канцы кнігі. Сп. Бунды супрацоўнічае са сп. Якавенкам у справе дапамогі ахвярам радыяцыі ў Беларусі.

Альбом з 42 чорна-белымі фатаграфіямі, што адлюстроўваюць чарнобыльскую бяду, дастойны Джон Бунды выдаў коштам ахвяраваньняў, сабраных ад знаёмых амэрыканцаў, бізнэсаў і цэркваў. «Мая мэта, — піша ён у прадмове да выданьня, — зьвярнуць увагу на патрэбу дапамогі ахвярам чарнобыльскай катастрофы. ... Урад, які адказны за дапамогу тым, што пацярпелі, у такім цяжкім фінансавым стане, што калі і можа даць дапамогу, дык вельмі малую. ... Усе грошы сабраныя з продажу альбому пойдуць на дапамогу ахвярам чарнобыльскай радыяцыі ў Беларусі».

Альбом можна набыць за ахвяраваньне 5 даляраў, пасылаючы грошы на наступны адрас:

John L. Bundy
R.D. 31. Box 527
Mill Hall, PA 17751

## ІМІГРАНТЫ Ў ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ ЗОНЕ

Амэрыканская газэта «Ўол Стрыт Джэрнал» (8.XI.95) апублікавала вялікі артыкул свае карэспандэнткі Нілы Банэрджы, якая наведала Беларусь, пра засяленьне чарнобыльскай зоны ўцекачамі з тэрыторыяў былога Савецкага Саюзу, дзе вядуцца войны: з Грузіі, Азэрбайджану, Чэчні, Таджыкістану і інш.

Сотні былых жыхароў варочаюцца ў чарнобыльскую зону, а разам з імі прыяжджае і шмат новых людзей, найбольш расейцаў. У калгасе Стрэліхава, прыкладам, бальшыня 450 работнікаў — імігранты. «Шмат хто зь мясцовых урадаўцаў, — піша газэта, — якія падахвочваюць былых жыхароў вяртацца, глядзяць на ўцекачоў зь іншых рэспублік як на валацугаў і абвінавачваюць іх у росьце злачынстваў».

### Да нашых Чытачоў

Прывітайце сваіх суродзічаў, прыяцеляў з Калядна-навагоднімі Сьвятамі і складзеце пры гэтым ахвяраваньне на газэту «Беларус» (20 даляраў за асабістае віншаваньне, 50 даляраў ад арганізацыі). Газэта «Беларус» патрабуе сёньня грашовае падтрымкі больш, чым калі-небудзь. З пачаткам новага году кошт выдаваньня газэты павялічваецца на 10 працэнтаў. Нядаўна падаражэла рассылка. Ёсьць выдаткі, зьвязаныя з выдаваньнем і пашыраньнем «Беларуса» на Бацькаўшчыне.

Мы спадзяёмся на Вашае разуменьне патрэбы выдаваньня «Беларуса» і чакаем Вашых ахвяраваньняў. З падзякай —

**Рэдакцыя «Беларуса»**